Жыві, Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№ 189 (202) 27 верасня 1991 г. Пятніца.

ВЫДАЕЦЦА З КАСТРЫЧНІКА 1990 ГОДА НА БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАХ.

Кошт: у розніцу — 10 кап. падпісны — 3 кап.

## Факты Аргументы Комментарии Суждения

### Помним!

**Музейную экспозицию, посвященную августовскому путчу, планируется открыть в Столинском совхозе-техникуме.**

Кстати, его окончил Владимир Усов, погибший на баррикадах при защите Верховного Совета России. Как нам стало известно, в Пинске проходил службу отец Володи. Первые фотографии, письма уже переданы в будущий музей.

### Поднимутся ли цены на бензин?

**Как сообщили нам в Госэкономплане Беларуси, розничные цены на бензин будут регулироваться исходя из оптовых цен, устанавливаемых Россией, — основным поставщиком сырой нефти нашей республике.**

Стало также известно, что Российское правительство уже повысило оптовые цены на сырую нефть на 20 процентов.

По оценкам специалистов, правительство Беларуси вынуждено будет либо поднять стоимость бензогорючих материалов в республике в 1,8—2 раза, либо компенсировать расходы за счет своего бюджета. Окончательного же решения по вводу новых цен на бензин еще нет.

### Следующая остановка — забастовка

**Профсоюз работников автомобильного и сельскохозяйственного машиностроения намерен объявить 17 октября часовую предупредительную забастовку.**

Такое решение принял пленум отраслевого профессионального союза. В «Ультиматуме Верховному Совету» говорится, что власти республики в нынешнем составе демонстрируют неспособность создать законодательную базу, защищающую права и свободы человека. Выдвигаются в столь категоричном «послании» и конкретные требования — включить в повестку дня предстоящей очередной сессии Закон о профсоюзах, оплате труда, трудовых спорах, коллективных договорах и охране труда. Совет профсоюзов призвал трудящихся продемонстрировать единство в защите своих прав.

### Сгорел автобус. С людьми

**Для четырех пассажиров рейсового автобуса Любаны — Славгород эта поездка оказалась последней. Еще девять человек с тяжелейшими ожогами доставлены в больницу.**

Трагедия произошла близ деревни Генжинка.

У старенького «ПАЗика» внезапно оборвался бензобак. Слив остатки топлива в ведро, водитель попытался при помощи шланга подавать горючее в мотор. Бензин пролился на раскаленный двигатель, который моментально вспыхнул. В считанные секунды пламя перекинулось и в салон, где находились 36 человек...

### Вкратце

▲ Президенты Сербии и Хорватии, а также федеральный министр обороны Югославии ведут переговоры о дальнейшем упрочении соглашения о прекращении огня, которое в Хорватии в основном соблюдается.

▲ В Грузии оппозиция заявила, что не подчинится чрезвычайному положению и призвала к упразднению поста президента республики.

▲ Президент США Дж. Буш принял в Белом доме Председателя Верховного Совета Украины Кравчука.

▲ В ходе разгона демонстрантов в Бухаресте погибли три человека. Но бастующие горняки и их сторонники в румынской столице не уходят с улиц. Вчера прибыл еще один поезд с шахтерами.

▲ Парламент Армении обратился к Организации Объединенных Наций с призывом принять республику в ООН. Кроме того, Верховный Совет призвал все страны признать Армению и установить с ней дипломатические отношения.

▲ Сторонниками независимости Приднестровья захвачено здание Госбанка Молдовы в Дубоссарах и предпринимаются попытки установления контроля над городом.

Рисунок Олега ПОПОВА.

### Можно ли на армии пахать поле?

**— Сокращения расходов на научно-исследовательские и опытно-конструкторские разработки новых видов вооружений не будет. Более того, целесообразно было бы в некоторых областях, где мы отстаем, даже увеличить капиталовложения,— сказал министр обороны Е. Шапошников в интервью агентству «Инфо-нова».**

**Корреспондент:** какой, по вашему мнению, должна быть роль армии в национально-территориальных конфликтах?

**Е. Шапошников:** роль эта должна точно соответствовать закону, в котором нужно четко оговорить: для чего служит армия. Что в законе не предусмотрено — того армия делать не должна. Я, к примеру, никак не могу объяснить некоторым своим зарубежным коллегам, почему у нас армия используется на уборке картошки. Считаю, что должен быть четкий закон об армии.

### Руки отрубят по закону

**В Пакистане суд приговорил двух американских граждан за ограбление банка к наказанию: ампутации правых рук и левых ступней.**

Видимо, в первый раз здесь выносится такой приговор иностранцам. Но стоит отметить, что эти американцы приняли ислам. На суде они признали, что использовали оружие, чтобы ограбить банк в северном городе Пешеваре. У них осталось 5 дней для обжалования приговора.

### Коллектив «Литературки» определился

**Разрешился наконец конфликт между бывшим главным редактором «Литературной газеты» народным депутатом СССР Федором Бурлацким и коллективом редакции, которая выразила ему недоверие в разгар августовского путча.**

На состоявшемся на днях собрании коллектива главным редактором «Литературки» избран Аркадий Удальцов — бывший заместитель Ф. Бурлацкого.

**Выпуск подготовлен по сообщениям Виктора ЛЕЩЕНКО, Владислава ПЛАТУНА, Алеся СИВОГО и агентств «Инфо-нова» и «Урал-акцепт».**

**«Горячий» телефон 32-24-02 работает ежедневно с 9 до 11 часов.**

## ПАСТАНОВА Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб падпарадкаванні чыгуначных войск, якія дыслацыруюцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

Кіруючыся Дэкларацыяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Падпарадкаваць чыгуначныя войскі, якія дыслацыруюцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь.

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь на 1 снежня 1991 года прадставіць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапановы па рэалізацыі гэтай пастановы.

3. Гэту пастанову ўвесці ў дзеянне з моманту прыняцця.

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
С. ШУШКЕВІЧ.

20 верасня 1991 г.
гор. Мінск.

## ПАСТАНОВА Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб перападпарадкаванні сістэмы Грамадзянскай абароны Рэспублікі Беларусь**

Кіруючыся Дэкларацыяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Падпарадкаваць органы кіравання, штабы і воінскія часці Грамадзянскай абароны Саюза ССР, якія дыслацыруюцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь.

2. Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 лістапада 1991 года падрыхтаваць прапановы аб сістэме Грамадзянскай абароны Рэспублікі Беларусь.

3. Пункт 1 гэтай пастановы ўвесці ў дзеянне з 1 студзеня 1992 года.

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
С. ШУШКЕВІЧ.

20 верасня 1991 г.
гор. Мінск

## Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб дзейнасці Добраахвотнага таварыства садзейнічання арміі, авіяцыі і флоту на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь**

Кіруючыся Дэкларацыяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Рэкамендаваць Цэнтральнаму камітэту Добраахвотнага таварыства садзейнічання арміі, авіяцыі і флоту Рэспублікі Беларусь разгледзець пытанне аб задачах, функцыях і прынцыпах дзейнасці таварыства ва ўмовах суверэнітэту і дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
С. ШУШКЕВІЧ.

20 верасня 1991 г.
гор. Мінск.

## Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб падпарадкаванні Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь мясцовых органаў ваеннага кіравання Рэспублікі Беларусь**

У мэтах рэалізацыі абароннай палітыкі Рэспублікі Беларусь Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Падпарадкаваць мясцовыя органы ваеннага кіравання Рэспублікі Беларусь Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь.

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 лістапада 1991 года прадставіць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапановы аб рэгламентацыі дзейнасці мясцовых органаў ваеннага кіравання Рэспублікі Беларусь.

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
С. ШУШКЕВІЧ.

20 верасня 1991 г.
гор. Мінск.

## Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб падпарадкаванні пагранічных войск Камітэта дзяржаўнай бяспекі Саюза ССР, якія дыслацыруюцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь**

Кіруючыся Дэкларацыяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь і ў мэтах забеспячэння гарантый непахіснасці дзяржаўных граніц Рэспублікі Беларусь і бяспекі рэспублікі, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Падпарадкаваць пагранічныя войскі Камітэта дзяржаўнай бяспекі Саюза ССР, якія дыслацыруюцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь.

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, камісіям Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю, па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах, па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях да 1 снежня 1991 года падрыхтаваць праект Закона Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь».

Да прыняцця Закона Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь» захаваць рэжым дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь з Рэспублікай Польшча, устаноўлены для дзяржаўнай граніцы Саюза ССР.

3. Гэту пастанову ўвесці ў дзеянне з моманту прыняцця.

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
С. ШУШКЕВІЧ.

20 верасня 1991 г.
гор. Мінск.

## «Я адчуў сябе чалавекам!»

### Як селянін выйшаў з калгаса і што з гэтага атрымалася

Фота Сяргея ГРЫЦА.

КАЛІ святочным жнівеньскім ранкам уся краіна скалыхнулася ад апошніх маскоўскіх навін, у салігорскай вёсачцы Цясова адчайна схапіўся за галаву Сулейман Асманавіч Палтаржыцкі:

— Што ж гэта, маці, робіцца? Няўжо зямлю адбяруць?..

Жонка, Марыя Аляксееўна, таксама жыла трывогаю, але мужу адказала спакойна:

— Дасць Бог, усё абыдзецца... Ну, а калі што якое — пайду за табою ў Сібір. Бы тая дзекабрыстка...

Хваляваліся ў хаце Палтаржыцкіх нездарма. Пачуўшы з Масквы пра дысцыпліну і парадак, адразу знайшліся ў вёсцы такія, што, не асабліва хаваючыся, з задавальненнем паціралі рукі:

— Даўно пара было... Хопіць, даперабудоўваліся. Напладзілі розных дэмакратаў ды фермераў. А зараз — от, пабачым, як завыюць. Гэта ім не не Гарбачоў—ураз усё на месца паставяць...

На шчасце — не паставілі. Але ж за сэрца ў тыя дні Палтаржыцкія хапаліся не раз — а ну ж перавернецца ўсё? Самі то ўжо няхай пражылі трохі. А дзеці? Трое дачок, як-ніяк...

Эх, была б мая воля, даўно б увёў у краіне званне «Герой перабудовы». І найперш даў бы яго першым фермерам — менавіта яны, як матылі, паляцелі на млявае святло «новага мыслення». І амаль кожны абсмаліў сабе крылы яшчэ на падлёце. І абсмальваюць нават на шостым годзе плюралізму і галоснасці.

І то сказаць — дадумацца, каб выйсці з калгаса! Добраахвотна! Узваліць на свае плечы поўны мех праблем, падазронасці, «класавай» варожасці, зайздрасці і г. д. Ну ці не вар'яцтвам тут патыхае?!

— Няма і блізка,— кажа мне Сулейман.— Пражыву і без калгаса. І іншым дакажу, што жыць без яго можна. Нават калі для гэтага зараз зусім мала ўмоў. А калі б шчэ хоць не перашкаджалі!..

Тут Сулейман замаўкае, і я бачу, колькі нерваў стаіць за апошнімі словамі...

Доўга маўчым. Хаця сядзець і няма як — верасень, пагодны дзень, спраў — мора. Добра, хоць крадзем час не ў работы — у палудня.

Гляджу ў акно і мімаволі ўсміхаюся. Савецкі фермер бачны здалёк: у адной шыбе старэнькі камбайн, у другой — такі ж «Беларус», у трэцяй — пануры грузавік, яўна знойдзены на задворках нейкага мехдвара...

Сулейман бачыць мой погляд і таксама ўсміхаецца.

— Грузавік у мяне «невязны». От, каб дзе прыдбаць ГАЗ-53!.. Можа, паможаш? Вы ж там у сталіцы. А «Народную газету» паважаюць...

Ківаю галавою, і праз хвіліну ўжо пішуцца просьбы — у Беларускі сялянскі саюз, міністру сельскай гаспадаркі і харчавання...

— Завязі, добры чалавек... А вось што атрымаецца. Аддзякуем добрым людзям. Мне б за раз яшчэ «газік» — о-о-о...

Эх, Сулейман Асманавіч. Гляджу на яго і ўспамінаю маладжавага Дзятліка. От гаспадар быў! Ды зламалі. Загналі ў «агульны кацёл». Там і зварыўся. Ці не чакае такое часам і першых беларускіх «вольных землеробаў»?

— Ды якія мы вольныя? Так сабе, адна назва. Але я ўжо сябе Чалавекам адчуў, свет пабачыў. Назад няма звароту, што б ні было. Хопіць! А што ўсёй сям'ёй з ранку да вечара не разгінаемся—дык ведаем за што. Свая ноша не цягне! Так, жонка?..

Марыя Аляксееўна ціха штурхае мужа ў бок:

— Цішэй ты... Разгаварыўся...

І я разумею, чаму яна так робіць — у пакой заглядвае дачка Іра, а разам з ёю цнатлівы хлапчына.

— Хто?—шэптам пытаюся ў Марыі Аляксееўны.

— Пабачым...— па-змоўніцку падмігвае мне яна. І даверліва дадае:—На зяця выпрабоўваем. Работнікі нам зараз ой як патрэбны...

АЛЕ патрэбны яны і калгасу. Тым больш такому, як імя Чкалава, бадай, адной з лепшых гаспадарак раёна.

Старшыня Міхаіл Міхайлавіч Журок доўга вывучае маё журналісцкае пасведчанне і са скрухаю рашаецца на размову:

— Даліся вам гэтыя фермеры... Шчэ ж, думаю, не забыліся, як хвалілі калгасы-саўгасы ды іх вопыт. Тут ваш брат журналіст стараўся, ведаю...

Я ведаю таксама. Бо Міхаіл Журок старшыня не абы-які— грымеў, як кажуць, і ў вобласці, і ў рэспубліцы.

— І што самае крыўднае пасля гэтага путчу, дык тое, што камуністаў зневажаюць, партыю разагналі. А я ж гаспадарку зрабіў насуперак камандам райкама — не слухаў нікога. Дык і нацярпеўся ад гэтай партыі: вымова за вымовай. Але ж для людзей стараўся. На мне і дарогі, і сацыяльнае будаўніцтва, і ўсё на свеце. А фермер што? Пасадзіў, выкапаў, прадаў. Усё для сябе. Дык што тут карыснага?!

Старшыню тут можна зразумець: дай яму волю — быў бы гаспадаром-фермерам адметным: вопыт, сувязі, веды ёсць. Ды — не хоча. Ды й, думаю, ужо не можа — другое выхаванне, іншы сацыяльны вопыт. І таму на таго ж Палтаржыцкага глядзіць—ніяк не зразумеў я — ці то з зайздрасцю, ці то з незахаванаю падазронасцю:

— Пад сябе грабуць гэтыя фермеры... А хто народ карміць будзе?..

Слушнае, што там казаць, пытанне. Але ж на яго Сулейман Палтаржыцкі, на шчасце, ужо мае адказ:

— А навошта яго карміць? Сам сябе пракорміць! Дайце толькі волю, зямлю і тэхніку. А што да калгаса — дык без яго жыць можна. Сам паспрабаваў. І выжыў!..

Так, на сёння можна ўжо з упэўненасцю сказаць, што пануючыя дагэтуль чуткі аб немагчымасці жыць на вёсцы без калгаса моцна перабольшаны. Цяжка, няпроста, нязвыкла, але — можна!

— Багацця не нажылі, але ж сёе-тое ў кішэні нашкраблося,— па-гаспадарску проста растлумачыла стан спраў Марыя Аляксееўна. Дык гэта за першы год. А там —пабачым. Было б здароўе, а астатняе і без калгаса заробім.

І, думаю, заробяць. Хаця пакруціцца, недаспаць прыйдзецца многа. Зямлі ў Палтаржыцкіх нямнога—троху больш 3,3 гектара. Менавіта столькі выдзеліла пасля доўгіх (і такіх нязвыклых!) разлікаў праўленне калгаса ў пажыццёвае карыстанне. А вось яго долю ад кошту асноўных сродкаў гаспадарка прытрымала. «Уставом колхоза не предусмотрено (неделимый фонд)»,— гаворыць афіцыйны дакумент.

Сулейман з гэтым не згодны.

— Я б за гэтыя грошы тое-сёе прыдбаў, лягчэй стаў бы на ногі. А так—залазь у дзяржаўную кішэню, бяры пазыку. Каму ж гэта выгадна? Ды і ў калгасе я не абібокам быў — працаваў сумленна. Праверце, калі не верыце: не ад працы ўцёк, а да працы...

Ды што тут правераць! Прайшоў па вёсцы, апытаў людзей:

— Добры гаспадар, што тут скажаш...

Але ж трохі сказаць трэба. Бо адна справа, калі чалавек выходзіць з калгаса адстаючага, ледзь-ледзь дыхаючага, і зусім іншая — калі парывае чалавек з гаспадаркай, якая працуе, бы адладжаны рухавік. І гарантуе і заробак, і даволі высокі дабрабыт.

БЫЛО гэта ўсё і ў Сулеймана: пятнаццаць гадоў — шафёр, камбайнер, механізатар. З іх апошнія тры гады — брыгадзір трактарна-паляводчай брыгады. Пасада не абы-якая, калі ўлічыць, што Цясова — адзіная буйная вёска гаспадаркі, усё тут «завязана». І таму «начальства» і вагу мае адпаведную.

Выйсці з такога кіруючага круга няпроста. І характар трэба мець, і вытрымку, і шчэ нешта ў марах і за душою, якое людам на вёсцы завецца «палітыкай».

Не абышоўся без яе і Палтаржыцкі. І крок адпаведны, напеpажываўшыся па начах, зрабіў: восенню 1990 года выйшаў з партыі камуністаў.

«Апазорыў на ўсю вобласць!» — быў агульны прысуд былых паплечнікаў. Пасля яго пачала-

(Заканчэнне на 2-й стар.).

Уступаю ў палеміку

## Незалежная Беларусь— заможная Беларусь

У газетах ніколі не друкаваўся, толькі чытаў іх. Але вось прачытаў думкі генерала запасу Анатоля Баранкевіча ў «Народнай газеце» за 12 верасня гэтага года, і маё грамадзянскае сумленне не можа маўчаць.

На думку шаноўнага Баранкевіча, наданне Дэкларацыі аб суверэнітэце рэспублікі статусу канстытуцыйнага акта — неразумны крок. І ён заклікае народных дэпутатаў выступіць супраць новай небяспечнай сілы — нацыянал-сацыялізму. Крывадушнасць яго ў тым, што ён прыкрывае гэта ўсё клопатамі аб беларускім народзе. Бачыце, незалежнасць не ў інтарэсах беларускага народа, вось Саюз — гэта ў ягоных інтарэсах! Шаноўны аўтар гаворыць, што нельга пакінуць без дапамогі Беларусь, сам-насам з чарнобыльскай бядой. Але ж гэтая бяда прыйшла да нас ад Саюза і ён колькі ўжо часу ніякай дапамогі не аказваў. Наадварот, зрабіў усё магчымае, каб і іншыя народы свету не дапамагалі. Гэта саюзныя вучоныя дабіліся таго, што МАГАТЭ прыняла рашэнне, згодна якой канцэпцыя беларускіх вучоных адносна заражэння не адпавядае рэчаіснасці, таму і няма вялікай неабходнасці дапамагаць Беларусі.

Аўтар у сваім артыкуле заклікае дэпутатаў лічыцца з рэферэндумам, як з воляй беларусаў жыць у адзінай сям'і славянскіх народаў. Але ж сакавіцкі рэферэндум — падман народа, і падзеі апошняга часу гэта паказалі. Адносна жыцця ў адзінай сям'і славянскіх народаў скажу наступнае — мы за 73 гады дажыліся да таго, што па нас, беларусах, праспявалі ўжо паніхіду. Мы, можна сказаць, страцілі мову, культуру, этнічныя і духоўныя рысы, і калі б Саюз яшчэ працягнуў сваё існаванне, то беларусы, пэўна, падзялілі б лёс плямені прусаў.

У майго народа ёсць самыя дарагія каштоўнасці: працавітасць, талент, розум. Гэтыя якасці нашага народа забяспечаць нас усім неабходным. Я жыў у Заходняй Беларусі, дзе польскі ўрад не будаваў ніякай прамысловасці, і сяляне атрымлівалі ўсё неабходнае за лён. Упэўнены, што калі мы гэтую культуру, якая ў нас добра расце, пачнём вырошчваць і апрацоўваць належным чынам, канкурэнтаў у нас на сусветным рынку не будзе.

Народ, як і чалавек, толькі ва ўмовах свабоды зможа развіць свой творчы і духоўны патэнцыял. Таму ў мяне просьба да шаноўных дэпутатаў: дарагія дэпутаты, схіляю сваю сівую галаву перад вамі і прашу — у імя свабоды і шчасця будучых пакаленняў беларусаў замацуйце суверэнітэт Рэспублікі Беларусь.

**Іосіф МАЙСЕНЯ,**
**ветэран працы.**
Нясвіжскі раён.

Народная газета

**ПРАЕКТ,** РАСПРАЦАВАНЫ КАМІСІЯЙ ПА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПАЛІТЫЦЫ І МІЖНАЦЫЯНАЛЬНЫХ АДНОСІНАХ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Закон Рэспублікі Беларусь

# «АБ ГРАМАДЗЯНСТВЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ»

### Раздзел I. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 1. Грамадзяне Рэспублікі Беларусь**

Грамадзянамі Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца:

1) асобы, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь на дзень уступлення ў сілу гэтага закона;

2) асобы, якія набылі грамадзянства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з гэтым законам.

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права на атрыманне грамадзянства іншай дзяржавы, таксама як і грамадзяне іншай дзяржавы маюць права на атрыманне грамадзянства Рэспублікі Беларусь (двайное грамадзянства) на аснове міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 2. Роўнае грамадзянства**

Грамадзянства Рэспублікі Беларусь з'яўляецца роўным для ўсіх грамадзян Рэспублікі Беларусь, незалежна ад падстаў яго набыцця.

**Артыкул 3. Права на грамадзянства**

Грамадзянін Рэспублікі Беларусь не можа быць пазбаўлены грамадзянства. Ніхто з грамадзян Рэспублікі Беларусь не можа быць адвольна пазбаўлены права змяніць грамадзянства.

**Артыкул 4. Абарона дзяржавай правоў і законных інтарэсаў грамадзян Рэспублікі Беларусь**

Дзяржава абараняе правы і законныя інтарэсы грамадзян Рэспублікі Беларусь на сваёй тэрыторыі і за яе межамі.

Рэспубліка Беларусь, яе дыпламатычныя прадстаўніцтвы і консульскія ўстановы, а таксама іх службовыя асобы абавязаны прымаць меры да таго, каб грамадзяне Рэспублікі Беларусь мелі магчымасць карыстацца ў поўным аб'ёме ўсімі правамі, прадастаўленымі ім заканадаўствам краіны знаходжання, міжнароднымі дагаворамі, удзельнікамі якіх з'яўляюцца Рэспубліка Беларусь і дзяржава знаходжання, і міжнароднымі звычаямі, ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку абараняць іх правы і законныя інтарэсы, а пры неабходнасці прымаць меры для аднаўлення парушаных правоў грамадзян Рэспублікі Беларусь.

У выпадку, калі ў краіне знаходжання грамадзян Рэспублікі Беларусь адсутнічаюць дыпламатычныя прадстаўніцтвы і консульскія ўстановы Рэспублікі Беларусь, абарона правоў і законных інтарэсаў грамадзян Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь можа ажыццяўляцца адпаведнымі органамі іншых дзяржаў.

**Артыкул 5. Замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства. Іх прававое становішча**

Замежнымі грамадзянамі ў Рэспубліцы Беларусь прызнаюцца асобы, якія не з'яўляюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь і маюць доказы сваёй прыналежнасці да грамадзянства іншай дзяржавы.

Асобамі без грамадзянства ў Рэспубліцы Беларусь прызнаюцца асобы, якія не з'яўляюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь і не маюць доказаў сваёй прыналежнасці да грамадзянства іншай дзяржавы.

Прававое становішча замежных грамадзян і асоб без грамадзянства на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь рэгулюецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 6. Дакумент, які сведчыць аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь**

Дакументам, які сведчыць аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь, з'яўляецца пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь.

Узор пашпарта грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, парадак і ўмовы яго выдачы вызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

### Раздзел II. НАБЫЦЦЁ І ЗАХАВАННЕ ГРАМАДЗЯНСТВА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Артыкул 7. Падставы набыцця грамадзянства Рэспублікі Беларусь**

Грамадзянства Рэспублікі Беларусь набываецца:

1) па нараджэнню;

2) у выніку прыёму ў грамадзянства Рэспублікі Беларусь;

3) на іншых падставах, якія прадугледжаны міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь або гэтым законам.

**Артыкул 8. Грамадзянства дзіцяці, бацькі якога з'яўляюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь**

Дзіця, бацькі якога на момант яго нараджэння — грамадзяне Рэспублікі Беларусь, з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь незалежна ад месца свайго нараджэння.

**Артыкул 9. Грамадзянства дзіцяці, адзін з бацькоў якога з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь**

У выпадку, калі на момант нараджэння дзіцяці адзін з яго бацькоў быў грамадзянінам Рэспублікі Беларусь, дзіця з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь, калі:

1) яно нарадзілася на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь;

2) яно нарадзілася за межамі Рэспублікі Беларусь, але яго бацькі або адзін з іх у гэты час пастаянна пражывалі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Калі на момант нараджэння дзіцяці яго бацькі, адзін з якіх з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь, пастаянна пражывалі за межамі Рэспублікі Беларусь, грамадзянства дзіцяці, што нарадзілася за межамі Рэспублікі Беларусь, вызначаецца па рашэнню бацькоў, выражанаму ў пісьмовай форме.

Калі на момант нараджэння дзіцяці адзін з бацькоў быў невядомы або не меў ніякага грамадзянства, а другі быў грамадзянінам Рэспублікі Беларусь, дзіця з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь незалежна ад месца нараджэння.

**Артыкул 10. Набыццё грамадзянства Рэспублікі Беларусь дзіцем, бацькі якога з'яўляюцца асобамі без грамадзянства**

Дзіця, бацькі якога з'яўляюцца асобамі без грамадзянства і якое нарадзілася на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, лічыцца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 11. Грамадзянства дзіцяці, бацькі якога невядомы**

Дзіця, якое знаходзіцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, бацькі якога невядомы, з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 12. Умовы прыёму ў грамадзянства Рэспублікі Беларусь**

У грамадзянства Рэспублікі Беларусь можа быць прынята асоба ў адпаведнасці з яе хадайніцтвам, калі яна:

1) бярэ на сябе абавязацельства выконваць і паважаць Канстытуцыю і законы Рэспублікі Беларусь;

2) ведае дзяржаўную мову Рэспублікі Беларусь у межах, неабходных для зносін;

3) пастаянна пражывае на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь на працягу апошніх 5 гадоў;

4) мае на яе тэрыторыі законную крыніцу існавання.

**Артыкул 13. Набыццё і захаванне грамадзянства Рэспублікі Беларусь пры заключэнні і скасаванні шлюбу**

Заключэнне або скасаванне шлюбу грамадзянінам Рэспублікі Беларусь з грамадзянінам іншай дзяржавы або асобай без грамадзянства не мяняе грамадзянства мужа і жонкі.

Асоба, якая заключыла шлюб з грамадзянінам Рэспублікі Беларусь, прымаецца ў грамадзянства Рэспублікі Беларусь пры наяўнасці яе жадання і ўмоў, прадугледжаных пунктам I артыкула 12 гэтага закона.

**Артыкул 14. Захаванне грамадзянства Рэспублікі Беларусь**

Пражыванне грамадзяніна Рэспублікі Беларусь на тэрыторыі іншай дзяржавы само па сабе не вядзе да страты грамадзянства Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 15. Недапушчальнасць выдачы грамадзяніна Рэспублікі Беларусь іншай дзяржаве**

Грамадзянін Рэспублікі Беларусь не можа быць выдадзены іншай дзяржаве, калі гэта не прадугледжана міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 16. Захаванне права на набыццё грамадзянства Рэспублікі Беларусь**

Права на набыццё грамадзянства Рэспублікі Беларусь захоўваецца за асобамі, якія пастаянна пражывалі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, былі прымусова выселены з яе тэрыторыі або вымушаны былі пакінуць яе да моманту прыняцця гэтага закона, а таксама за іх дзецьмі і ўнукамі.

Грамадзянства такім асобам прадастаўляецца пры наяўнасці іх жадання і ўмоў, прадугледжаных артыкулам 12 гэтага закона, за выключэннем тэрміну пражывання.

### Раздзел III. СПЫНЕННЕ ГРАМАДЗЯНСТВА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АДНАЎЛЕННЕ Ў ГРАМАДЗЯНСТВЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Артыкул 17. Падставы спынення грамадзянства Рэспублікі Беларусь**

Грамадзянства Рэспублікі Беларусь спыняецца:

1) у выніку выхаду з грамадзянства Рэспублікі Беларусь;

2) у выніку страты грамадзянства Рэспублікі Беларусь;

3) па іншых падставах, прадугледжаных гэтым законам.

**Артыкул 18. Выхад з грамадзянства Рэспублікі Беларусь**

Выхад з грамадзянства Рэспублікі Беларусь дазваляецца па хадайніцтву асобы ў парадку, устаноўленым гэтым законам.

Выхад з грамадзянства Рэспублікі Беларусь не дапускаецца, калі асоба, якая хадайнічае аб выхадзе, прыцягнута да крымінальнай адказнасці ў якасці абвінавачваемай або ў адносінах да яе ёсць прыгавор суда, які ўступіў у законную сілу і падлягае выкананню, або мае запазычанасць па падатках або іншыя непагашаныя даўгі перад Рэспублікай Беларусь.

**Артыкул 19. Страта грамадзянства Рэспублікі Беларусь**

Грамадзянства Рэспублікі Беларусь страчваецца:

1) у выніку набыцця асобай грамадзянства іншай дзяржавы, калі іншае не прадугледжана міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь;

2) у выніку паступлення асобы на ваенную службу, службу бяспекі, ў паліцыю, органы юстыцыі і іншыя органы дзяржаўнай улады і кіравання ў замежнай дзяржаве;

3) калі грамадзянства Рэспублікі Беларусь набыта ў выніку прадстаўлення заведама лжывых звестак або фальшывых дакументаў.

Страта грамадзянства Рэспублікі Беларусь настае з моманту рэгістрацыі дадзенага факта паўнамоцнымі дзяржаўнымі органамі, указанымі ў артыкулах 30 і 31 гэтага закона.

**Артыкул 20. Аднаўленне ў грамадзянстве Рэспублікі Беларусь**

Асоба, якая пазбаўлена грамадзянства Рэспублікі Беларусь да ўвядзення ў дзеянне гэтага закона, можа быць па яе хадайніцтву або з яе згоды адноўлена ў грамадзянстве Рэспублікі Беларусь.

### Раздзел IV. АСАБЛІВЫЯ ВЫПАДКІ ЗМЯНЕННЯ, ЗАХАВАННЯ АБО СТРАТЫ ГРАМАДЗЯНСТВА

**Артыкул 21. Змяненне грамадзянства дзіцяці ў выпадку змянення грамадзянства бацькамі**

У выпадку змянення грамадзянства бацькамі або адным з іх, калі другі невядомы, адпаведным чынам мяняецца грамадзянства дзіцяці, калі яно не дасягнула ўзросту 16 гадоў.

Па жаданню бацькоў або аднаго з іх, калі другі невядомы, у выпадку змянення імі грамадзянства Рэспублікі Беларусь за дзіцем ва ўзросце да 16 гадоў можа захоўвацца грамадзянства Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 22. Захаванне грамадзянства Рэспублікі Беларусь дзіцем, над якім устаноўлена апека або папячыцельства**

Калі бацькі або адзін з бацькоў дзіцяці, якое пражывае на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, выходзяць з грамадзянства Рэспублікі Беларусь або страчваюць яго і пры гэтым не ўдзельнічаюць у выхаванні дзіцяці, над якім устаноўлена апека або папячыцельства грамадзян Рэспублікі Беларусь, дзіця па хадайніцтву бацькоў, апекуна або папячыцеля захоўвае грамадзянства Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 23. Набыццё дзіцем грамадзянства Рэспублікі Беларусь у выпадку набыцця грамадзянства Рэспублікі Беларусь адным з бацькоў**

Калі грамадзянства Рэспублікі Беларусь набывае адзін з бацькоў, а другі застаецца грамадзянінам іншай дзяржавы, дзіця можа набыць грамадзянства Рэспублікі Беларусь па сумеснаму хадайніцтву бацькоў.

Калі грамадзянства Рэспублікі Беларусь набывае адзін з бацькоў, а другі застаецца асобай без грамадзянства, дзіця, якое пражывае на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, становіцца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 24. Захаванне дзіцем грамадзянства Рэспублікі Беларусь у выпадку выхаду аднаго з бацькоў з грамадзянства Рэспублікі Беларусь або яго страты**

Калі адзін з бацькоў выходзіць з грамадзянства Рэспублікі Беларусь або страчвае яго, а другі застаецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь, дзіця захоўвае грамадзянства Рэспублікі Беларусь. Па хадайніцтву бацькоў такому дзіцяці можа быць дазволены выхад з грамадзянства Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 25. Набыццё дзіцем грамадзянства Рэспублікі Беларусь у выпадку ўсынаўлення**

Дзіця, якое з'яўляецца грамадзянінам іншай дзяржавы або асобай без грамадзянства, пры ўсынаўленні грамадзянамі Рэспублікі Беларусь становіцца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь.

Дзіця, якое з'яўляецца грамадзянінам іншай дзяржавы, пры ўсынаўленні мужам і жонкай, адзін з якіх з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь, а другі — асобай без грамадзянства, становіцца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь.

Дзіця, якое з'яўляецца асобай без грамадзянства, пры ўсынаўленні мужам і жонкай, адзін з якіх з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь, становіцца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь.

Дзіця, якое з'яўляецца грамадзянінам іншай дзяржавы, пры ўсынаўленні мужам і жонкай, адзін з якіх з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь, а другі — грамадзянінам іншай дзяржавы, становіцца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь па згодзе ўсынавіцеляў.

**Артыкул 26. Захаванне дзіцем грамадзянства Рэспублікі Беларусь у выпадку ўсынаўлення**

Дзіця, якое з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь, усыноўленае грамадзянамі іншай дзяржавы або ўсыноўленае мужам і жонкай, адзін з якіх з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь, а другі — грамадзянінам іншай дзяржавы, захоўвае грамадзянства Рэспублікі Беларусь. Па хадайніцтву ўсынавіцеляў такому дзіцяці можа быць дазволены выхад з грамадзянства Рэспублікі Беларусь.

Дзіця, якое з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь, усыноўленае асобамі без грамадзянства або ўсыноўленае мужам і жонкай, адзін з якіх з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь, а другі — асобай без грамадзянства, захоўвае грамадзянства Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 27. Змяненне грамадзянства дзяцей ва ўзросце ад 16 да 18 гадоў**

Змяненне грамадзянства дзяцей ва ўзросце ад 16 да 18 гадоў у выпадку змянення грамадзянства іх бацькоў, а таксама пры ўсынаўленні дапускаецца толькі са згоды дзяцей.

### Раздзел V. ОРГАНЫ, ЯКІЯ ПРЫМАЮЦЬ РАШЭННІ І АФАРМЛЯЮЦЬ ДАКУМЕНТЫ ПА ПЫТАННЯХ ГРАМАДЗЯНСТВА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Артыкул 28. Орган, які прымае рашэнні па пытаннях грамадзянства Рэспублікі Беларусь**

У Рэспубліцы Беларусь органам, які прымае рашэнні па пытаннях грамадзянства Рэспублікі Беларусь, з'яўляецца Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Для папярэдняга разгляду пытанняў грамадзянства Рэспублікі Беларусь Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь утварае Камісію па пытаннях грамадзянства.

**Артыкул 29. Органы, якія рыхтуюць і афармляюць дакументы аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь**

Падрыхтоўку і афармленне дакументаў аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь ажыццяўляюць: на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь — Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь; за мяжой — Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 30. Паўнамоцтвы органаў унутраных спраў**

Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, упраўленні, аддзелы ўнутраных спраў выканаўчых камітэтаў Саветаў народных дэпутатаў:

прымаюць ад асоб, якія пастаянна пражываюць у Рэспубліцы Беларусь, заявы па пытаннях грамадзянства і разам з неабходнымі дакументамі накіроўваюць на разгляд Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь;

вызначаюць прыналежнасць асоб, якія пастаянна пражываюць у Рэспубліцы Беларусь, да грамадзянства Рэспублікі Беларусь;

рэгіструюць страту грамадзянства Рэспублікі Беларусь асобамі, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 31. Паўнамоцтвы Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, дыпламатычных прадстаўніцтваў і консульскіх устаноў Рэспублікі Беларусь**

Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, дыпламатычныя прадстаўніцтвы і консульскія ўстановы Рэспублікі Беларусь:

прымаюць ад асоб, якія пастаянна пражываюць за мяжой, заявы па пытаннях грамадзянства Рэспублікі Беларусь і разам з неабходнымі дакументамі накіроўваюць на разгляд Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь;

вызначаюць прыналежнасць асоб, якія пражываюць за мяжой, да грамадзянства Рэспублікі Беларусь;

рэгіструюць страту грамадзянства Рэспублікі Беларусь асобамі, якія пастаянна пражываюць за мяжой;

вядуць улік грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія пастаянна пражываюць за мяжой.

### Раздзел VI. ПАРАДАК ПАДАЧЫ І РАЗГЛЯДУ ДАКУМЕНТАЎ ПА ПЫТАННЯХ ГРАМАДЗЯНСТВА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Артыкул 32. Падача дакументаў па пытаннях грамадзянства Рэспублікі Беларусь**

Пытанні прыёму, выхаду або аднаўлення ў грамадзянстве Рэспублікі Беларусь разглядаюцца пры наяўнасці пісьмовай заявы зацікаўленай асобы.

Да заявы аб прыёме ў грамадзянства прыкладаюцца наступныя дакументы: копія пасведчання аб нараджэнні, дакумент аб тэрміне пражывання ў Рэспубліцы Беларусь, дакумент аб крыніцы існавання.

У выпадках, прадугледжаных у раздзеле IV гэтага закона, заявы па пытаннях грамадзянства Рэспублікі Беларусь падаюцца бацькамі або іншымі законнымі прадстаўнікамі.

**Артыкул 33. Парадак падачы дакументаў па пытаннях грамадзянства**

Дакументы па пытаннях грамадзянства падаюцца на разгляд Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь праз органы ўнутраных спраў па месцы пастаяннага жыхарства заяўніка, а асобамі, якія пастаянна пражываюць за мяжой, — праз Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь або дыпламатычныя прадстаўніцтвы і консульскія ўстановы Рэспублікі Беларусь.

Асоба, якая з'яўляецца грамадзянінам іншай дзяржавы, з якой Рэспублікай Беларусь заключаны дагавор аб прадухіленні двайнога грамадзянства, абавязана прадставіць дакумент, які сведчыць аб адносінах гэтай дзяржавы да намеру грамадзяніна змяніць грамадзянства.

**Артыкул 34. Парадак разгляду дакументаў па пытаннях грамадзянства**

Дакументы, якія паступілі ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з дзяржаўных органаў, указаных у артыкуле 29 гэтага закона, разглядаюцца Камісіяй Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях грамадзянства.

Камісія мае права запатрабаваць па справе, што знаходзіцца ў яе вядзенні, матэрыялы і дакументы ў адпаведных дзяржаўных органаў і грамадскіх арганізацый, якія прадстаўляюць неабходную інфармацыю ва ўстаноўлены камісіяй тэрмін.

Камісія ўносіць на разгляд Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прапановы па кожнай заяве або прадстаўленню.

Рашэнне камісіі афармляецца пратаколам, які падпісваецца ўсімі членамі камісіі, што ўдзельнічалі ў пасяджэнні.

**Артыкул 35. Вырашэнне пытанняў грамадзянства Рэспублікі Беларусь у Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і інфармаванне аб яго выніках**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб прыёме ў грамадзянства Рэспублікі Беларусь і аднаўленні ў грамадзянстве Рэспублікі Беларусь выдае ўказы.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па асабістых заявах аб выхадзе з грамадзянства Рэспублікі Беларусь, а таксама ў выпадках адхілення хадайніцтваў аб прыёме ў грамадзянства Рэспублікі Беларусь прымае пастановы.

Гэтыя ўказы і пастановы друкуюцца ў «Ведамасцях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь».

Змяненні ў грамадзянстве пачынаюць дзейнічаць у дзень прыняцця ўказа Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, калі ўказам не ўстаноўлена іншае.

**Артыкул 36. Тэрмін разгляду заяў па пытаннях грамадзянства**

Тэрмін разгляду заяў па пытаннях грамадзянства не павінен перавышаць аднаго года.

**Артыкул 37. Паўторны разгляд хадайніцтваў па пытаннях грамадзянства Рэспублікі Беларусь**

Паўторныя хадайніцтвы асобы аб прыёме ў грамадзянства, аднаўленні ў грамадзянстве Рэспублікі Беларусь або выхадзе з грамадзянства Рэспублікі Беларусь прымаюцца не раней чым праз год пасля прыняцця папярэдняга рашэння. У выпадку ўзнікнення істотных для справы абставін, якія не былі і не маглі быць вядомы заяўніку, паўторная заява можа быць разгледжана і раней.

### Раздзел VII. ВЫКАНАННЕ РАШЭННЯЎ ПА ПЫТАННЯХ ГРАМАДЗЯНСТВА

**Артыкул 38. Органы, якія выконваюць рашэнні па пытаннях грамадзянства**

Рашэнні па пытаннях грамадзянства ў адносінах да асоб, якія пражываюць у Рэспубліцы Беларусь, выконваюцца Міністэрствам унутраных спраў Рэспублікі Беларусь, упраўленнямі, аддзеламі ўнутраных спраў, а ў адносінах да асоб, якія пражываюць за мяжой, — Міністэрствам замежных спраў Рэспублікі Беларусь, дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі і консульскімі ўстановамі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 39. Кантроль за выкананнем рашэнняў па пытаннях грамадзянства**

Кантроль за выкананнем рашэнняў па пытаннях грамадзянства ажыццяўляецца Камісіяй Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях грамадзянства.

**Артыкул 40. Парадак разгляду хадайніцтваў па пытаннях грамадзянства Рэспублікі Беларусь**

Парадак разгляду хадайніцтваў па пытаннях грамадзянства Рэспублікі Беларусь і выканання прынятых рашэнняў вызначаецца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь.

### Раздзел VIII. АБСКАРДЖАННЕ РАШЭННЯЎ ПА ПЫТАННЯХ ГРАМАДЗЯНСТВА

**Артыкул 41. Абскарджанне рашэнняў па пытаннях грамадзянства**

Рашэнні па пытаннях грамадзянства, прынятыя Прэзідыумам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, могуць быць абскарджаны ў Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь як суд першай інстанцыі.

**Артыкул 42. Абскарджанне неправамерных дзеянняў службовых асоб па пытаннях грамадзянства**

Неабгрунтаваная адмова ў прыёме заяў па пытаннях грамадзянства, парушэнне тэрмінаў разгляду заяў, а таксама іншыя неправамерныя дзеянні службовых асоб, якія парушаюць парадак разгляду спраў аб грамадзянстве і парадак выканання рашэнняў па пытаннях грамадзянства, могуць быць абскарджаны ў суд.

### Раздзел IX. МІЖНАРОДНЫЯ ДАГАВОРЫ

**Артыкул 43. Прымяненне міжнародных дагавораў**

Калі міжнародным дагаворам Рэспублікі Беларусь устаноўлены іншыя правілы, чым тыя, што змяшчаюцца ў гэтым законе, прымяняюцца правілы міжнароднага дагавора.

***

Прапановы і заўвагі па праекту закона просьба накіроўваць на адрас:

220010 г. Мінск, Дом урада, Камісія па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

# «Я адчуў сябе чалавекам!»

## Як селянін выйшаў з калгаса і што з гэтага атрымалася

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

ся яўная і «тайная» барацьба на зжыванне Сулеймана з пасады. І ён зрабіў свой выбар: падаўся ў «аднаасобнікі»...

— Не са злосці, паверце, выйшаў з калгаса. Хаця крыўда трохі ёсць. Але найбольш на калгас як сістэму, калі селянін у ім бяспраўны-безгалосы перад рознымі «начальнікамі». І гэта на сваёй зямлі, на прыканцы дваццатага стагоддзя, калі людзі ўжо космас абжываюць! Прагналі паноў ды напладзілі новых, яшчэ горшых — «чырвоных». Гэтыя на шыю ўселіся крэпка, ніяк не страсеш...

— Дык вы ж, Сулейман, таксама паны: сваё поле, трактар, камбайн. І людзей, ведаю, наймаеце на працу...

— Да пана мне далёка. Я пакуль у парабках хаджу. Ды й «панства» свайго не саромеюся: з працы жыву, сваё дбаю, а не сяджу на якім-небудзь дэфіцыце ці грабу пад сябе народнае. З людзьмі разлічваюся, як трэба: не па прымусу ж ідуць, а з інтарэсу. Вось і зараз прыйдуць — у мяне ж сад яшчэ не даведзены да ладу...

І сад, дадам, не малы: 15 гектараў яго ўзяў у арэнду ў суседнім саўгасе. Бо зямлі мае мала — от каб не тры, а пятнаццаць гектараў было!..

Але гэта пакуль мары. А ўраджай са сваёй зямлі—вось ён, ужо на вачах, можна патрымаць рукамі. Ячменю сабралі каля 8 тон, гэта 55 цэнтнераў з гектара. Удалася і бульба. Прыдбалі сямёра парасят — кармы ж ёсць.

СЛОВАМ, аднаасобная гаспадарка мацнее. Дарэчы, яна ўжо ў Цясова не адна. На жаль, не давялося сустрэцца з «калегам» Палтаржыцкага па «прафесіі» Аляксеем Пятровічам Палтаракам — збіраўся ён заехаць да Сулеймана глянуць на бульбу, разжыцца добрым насеннем, ды, відаць, нешта ў планах змянілася. А пагаварыць хацелася. Бо, калі Палтаржыцкія «спецыялізуюцца» больш на бульбе, збожжы, то Палтарака, як сказалі вяскоўцы, «і горад, і сяло гуркамі ды памідорамі корміць».

Апошняе меркаванне вядома і старшыні М. Журку.

— А я што, не кармлю? Калгас не корміць?! Па дзве з палавінай тоны малака і дванаццаць — мяса прыходзіцца на кожнага працуючага. Фермерам да гэтага далёка. Калгасы сябе яшчэ пакажуць. І краіну б, і фермераў накармілі. Ды, на жаль, дурняў на дзяржаўных і партыйных пасадах сядзела многа. І зараз сядзяць. А мы за іх аддувайся... Без усякай падзякі за ўсё...

Зноў-такі разумею крыўду старшыні. Хаця ёсць тут, як ні хавай, і асабісты інтарэс. А ён у тым, што пры з'яўленні фермера-аднаасобніка ранейшае паўнаўладдзе на вёсцы старшыні калгаса (і не толькі тутэйшага!) страчваецца, як бы ён ні стараўся напачатку «прыціснуць» нечаканага канкурэнта. Тым больш, калі адступнік ад калгаснага ладу выжывае ды яшчэ мае, як кажуць, і скварку, і чарку. Сам зарабляе, без калгаса!

О, гэта ўжо небяспечна! Бо на вачах прыгнечанага савецкага мужыка жыццё малюе карціну, калі можна параўнаць дзве формы ўласнасці і гаспадарання на зямлі. І па начах хто-небудзь ўжо не спіць, варочаецца, мяркуючы: як жыць спраўней, з якога боку?..

ТАКІЯ думкі-параўнанні лётаюць не толькі над Цясова — лёс Палтаржыцкіх узяты мною для канкрэтнага прыкладу агульнага працэсу, які набірае сілу. А таксама, каб паказаць, што з умелымі рукамі ды кемлівай галавою без калгаса можна жыць, і няблага. Вялікага страху няма, нават калі будуць з усіх бакоў «ціснуць». Было б жаданне, выжывецца. У гэтым — уся, як кажуць, соль моманту. Агітацыя спраўю.

Ці дрэнна гэта для калгаса? Ды, думаю, наадварот — добра! І яшчэ як. Бо штурхае непаваротлівыя калектыўныя гаспадаркі на эканамічныя рэформы, пры якіх і дыхаць селяніну вальней, і жыць лепей. Дык не «ціснуць» трэба ўладам і калгасу таго фермера, а дапамагаць, каб хутчэй выгадаваць добрага канкурэнта. Ад гэтага ўсім выйгрыш!

На жаль, гэта не ўсе яшчэ разумеюць. І таму касавурацца на «аднаасобніка». Не загоіліся раны і на сэрцы Сулеймана Палтаржыцкага ад усяго перажытага. Ды не будзем іх яшчэ раз вярэдзіць—жыццё ўсё паставіць на месца, а гаспадарскую і чалавечую годнасць Сулейман Асманавіч з сям'ёю відавочна даказаў і сабе, і людзям, і нават нам, нядоўгім гасцям.

Ад усведамлення гэтага, адчувалася, і ўсміхаўся, калі фатаграфавалі на памяць і ў газету.

— Няёмка трохі, але хай людзі бачаць — жыве фермер і жыць будзе! Былі б здароўе, добрая жонка ды працавітыя дзеці. Ды не толькі ў полі — каб унукаў аднаго за адным сыпалі. Будзем жыць!..

...Эх, шкада ўсё ж, што я пакуль не прэзідэнт Беларусі. Далібог, даў бы гэтым першым фермерам «героя» не «героя», дык хоць аўтамабіль з «капіталкі». Нават авансам. За тыя страхі і перажыванні, што нацярпеліся. Бо жывуць жа, па вялікаму ліку, не для сябе, а й нас вучаць жыць не з крадзяжу, спекуляцыі ды паездак у Польшчу.

З працы жывуць. З цярплівай нашай зямлі, якая зачакалася руплівага гаспадара. Такога, які б на сваёй зямлі адчуваў сябе Чалавекам.

Дык дапаможам яму ў гэтым.

**Павел СТАСЕВІЧ,**
**аглядальнік «Народнай газеты» па аграрных пытаннях.**
**Салігорск — Цясова — Мінск.**

Резонанс

# Опять «до основанья»? А зачем?

В эти туманные дни (поскольку никто ясно не видит дня завтрашнего) проявляется подчас беспощадная агрессивность ко всему, что было у нас после 1917 года. Вот тому иллюстрация, опубликованная в «Народной газете»: Президиум и собрание Союза художников (кстати, собрание весьма немногочисленное) предлагают «отменить почетные звания членов творческих Союзов, так как эти «знаки отличия» присваивались не за ценность произведений, а за послушание перед партийно - государственной номенклатурой».

Сказано хлестко, наверное, достаточно убедительно для тех, кто нынче жаждет не без злорадства сокрушать и разрушать, как в те самые годы, «до основанья». Но вот я представляю хорошо мне знакомых патриархов белорусского искусства — Евгения Зайцева и Виталия Цвирко, Михаила Савицкого и Гавриила Ващенко, Леонида Щемелева и Георгия Поплавского, Мая Данцига и Александра Кищенко — самых что ни есть именитых наших мастеров, каких вообще-то немного. Это именно к ним (а к кому же еще?) применена столь оскорбительная формулировка. Оскорбительная потому, что все они — действительно мастера и, уверена, никто из принявших резолюцию не осмелится утверждать, что их искусство вдруг утратило ценность или вообще ее не имело. Кроме того, кто из названных, как и большинство других народных и заслуженных, так уж рьяно выслуживался перед партийно-государственной номенклатурой? Скорее — наоборот! Кто как не эти художники отличались очень неудобной для власствующих, подчас шокирующей несговорчивостью? Если же и заблуждались в оценке всей тоталитарной системы наши художники, так все, как именитые, так и без званий, те, кто безотказно «клепал» портреты членов политбюро (лишь бы деньги платили). Зачем же ставить сейчас каждому это в укор? Ныне оценка тому — дело совести каждого.

**Эмма ПУГАЧЕВА.**
г. Минск.

# Дневник добрых дел

## Если в дом постучится «Мадонна»

...Не пугайтесь. Это значит, что друзья, родственники или просто близкие люди решили сделать вам приятный сюрприз — с юмором, нестандартно преподнести подарок по случаю или без. Потому что пока это может сделать только «Мадонна» — недавно открывшаяся в столице частная фирма по организации поздравлений, доставке на дом подарков, цветов, товаров и т. д. и т. п. — в любое время и в любой форме. Дешево — что значит один червонец в наши-то дни — и сердито.

Подарок вы можете выбрать сами или, если не хватает времени, доверить столь ответственное дело агентам фирмы.

Можно только порадоваться — для шутников, оригиналов и влюбленных настали золотые времена!

**Александр ДОРОШКО.**

